Год I. Нядзеля, 19-га сьнежня 1926 г. м. Вільня № 3.

# Беларуская хата

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ

Выходзіць раз у тыдзень. | З ІЛЮСТРАЦЫЯМІ. | Цана нумару 20 гр.

## АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя нашай газэты перанессна ў памешканьне „Беларускай Хаткі“: Вільня, Вялікая вул. д. № 56 (Wilno, ul. Wielka d. Nr. 56, m. 8), па якому адрэсу просім перасылаць усю корэспандэнцыю на імя газэты.

## ГОДЗІ ПАЛІТЫКАВАЦЬ!

Няма нічога больш лёгкага у нашыя часы, як рабіць палітыку. Ня трэ' тут ні веды, ні вялікага розуму. Крыху спрыту, уменьня прытарнавацца да настрою, магчыма больш крыку, дэмагогічнае лісьлівасьці прад масамі, здольнасьць, без аглядкі на сумленьне, іграць на інстынктах збаламучаных масаў — і кар'ера гатова. У ліхалецьце, якое перажываем, вынесла на паверх жыцьця цэлы рад асобаў, якія ў нармальным жыцьці, дзеля прадуктыўнае працы, ня мелі і ня маюць ніякіх даных. Няма дзіва, што гэтае вынясеньне ўчарашніх нікчэмнасьцяў зьяўляецца вялікай спакусай для іншых ахвотнікаў да лёгкага способу дабіцца вагі ў жыцьці. І рады гэтых ахвотнікаў растуць амаль ня з кожным часам. І кожны з іх—пнецца быць абавязкова нейкім гэнэралам, лідэрам, словам вялікай шышкай. Але на праўдных гэнэральскіх пасадаў ня так ужо шмат, каб здаволіць усіх кандыдатаў. Не памагае і падзел на партыі, групы, групкі... Паўстае канкурэнцыя, барацьба за гэтыя гэнэральскія пасады. Малакультурнасьць барацьбітаў, як у люстры адбіваецца на способах і мэтадах барацьбы. Замест аргумэнтацыі — ўзаемная лаянка, інсынуацыі, абліваньне памыямі адзін аднаго. У барацьбе гэтай адыходзяць на задні плян інтарэсы агулу, ідэалы, прынцыпы. Пануе толькі ўласны, асабісты інтэрас, толькі асабістыя, самыя нізкія мэты. Народ, масы, інтарэсы гэтых масаў, у імя і ад імя якіх быццам вядзецца і „праца“ і самая барацьба, зусім забываецца. Ідзе проста зьвярыная грызьня для смачнага кавалка, які можа даць палітычная гэнэральства.

Гэткі сумны абраз дае і нашае, беларускае, жыцьцё, асабліва тут, у Вільні. Усе рыхтуюцца ў бой. Усе— проці ўсіх. Вільня ўжо ня Вільня, гістарычнае места, поўнае памятак слаўнай мінуўшчыны нашае культуры. Гэта толькі арэна, толькі месца для „работы“ зубоў, капцюроў і лапаў розных „дабрадзеяў“ народу.

Хто—каго? Вось адзіная задача, якая пастаўлена на дзенны парадак... І на ўсю гэту ўзаемную калатню знаходзяцца паважныя грашавыя сумы, няма толькі іх на пашыраньне роднае культуры.

Няраз ужо нашыя беларускія часопісі розных кірункаў трубілі аб тым, што зашмат у нас палітыкі і надта мала культурнае працы. І гэта простая праўда, даўно для ўсіх нас ясная, ані не направляе дасюлешняга стану рэчаў. Палітыка расьце — культурная праца марнее. Кожнаму культурнаму працаўніку проста робіцца немагчымым яго фізычнае існаваньне, калі ён ня ўмее прытарнавацца да таго ці іншага палітычнага кірунку. І гэта ў той час, калі ўсе мы крычым аб патрэбе працы культурнай, калі, з боку гледзячы, здаецца, што на грунце гэтае працы магчыма нейкае аб'яднаньне ўсіх беларусаў якія маюць здольнасьці цьвяроза думаць.

Хто з беларусаў проці таго, каб мець хоць-бы ў Вільні свой нацыянальны тэатр? Хто проці таго, каб наш народ меў свае беларускія школы? Хто проці таго, каб існавала ў нас хоць-бы адна літаратурна-навуковая часопісь?

Ніхто! А тымчасам мы маем тут у Вільні аж 6 часопісяў, якія стараюцца вырабляць той ці іншы палітычны кірунак, спэкулюючы на цемнаце палітычна невырабле-

ых масаў расьцярушваючы беларускі нацыянальны рух.

Калі ёсьць між намі агульныя жаданьні, дык павінны мы знайсьці форму іх рэальнага зьдзейсьненьня, форму аб'яднаньня ўсіх, яшчэ ня здурэўшых ад палітычнага чаду, дзеячоў, якія супольнымі сіламі напэўна змаглі-б знайсьці способы задаволіць хоць мінімальныя культурныя запросы шэрых беларускіх масаў.

Толькі тады, калі мы будзем культурна дужымі, з намі будзе лічыцца кожная нават варожая беларускаму руху сіла.

Дык няўжо-ж мы дайшлі да таго, што ня можам аб'яднацца нават на зьдзірванелым полі нашае нацыянальнае культуры?

Ці-ж нельга нам зыйсьціся на гэтым полі не дзеля таго, каб даць адзін аднаму па лобе, а проста дзеля таго, каб працаваць сапраўды для дабра свайго народу?

Дык годзі палітыкаваць, беларусы!

# ЗА ТЫДЗЕНЬ.

З палітычных падзеяў апошняга часу найбольшай увагі заслужвае чарговая сэсія Рады Лігі Народаў у Жэнэве, на якой у першы раз прыймалі удзел паміж іншым прадстаўнікі Нямеччыны і Польшчы. Галоўным пытаньнем парадку дня гэтае сэсіі было скасаваньне ваеннага кантролю над Нямеччынай, робленага спэцыяльнай камісіяй хаўрусьнікаў і перадача гэтых функцыяў камісіі Лігі Народаў. Нямецкі прадстаўнік, міністар заграмічных справаў Штрэзэман, прыехаў у Жэнэву з двума галоўнымі жаданьнямі: скасаваньня ваеннага кантролю і эвакуацыі Прырэйнскай акругі. У гэтых жаданьнях Нямеччына выходзіла з прынцыпу, што як ваенны кантроль, гэтак сама і далейшая окупацыя нямецкіх тэрыторыяў войскамі хаўрусьнікаў не згаджаецца з духам Лёкарно і ўваходам яе ў Лігу Народаў, як роўнай сярод роўных. Каб забясьпечыць сабе памыснасьць у гэтых справах, Штрэзэман запрасіў на гэты час да Бэрліну Чычэрына, які сядзеў увесь час працягу жэнэўскай сэсіі Рады Лігі, сочачы за падзеямі і інтрыгуючы разам з Немцамі. Зусім магчыма, што пагроза новымі неспадзяванкамі накшталт Бэрлінскага ці Рапальскага трактату зрабіла сваё ўражаньне на сяброў Рады Лігі і апошняя прыхілілася да нямецкіх жаданьняў адносна першага пытаньня, ухіліўшы зусім, пакуль што, другое пытаньне аб эвакуацыі Прырэйнскае акругі. Адначасна не прыхілілася Рада Лігі да жаданьняў Польшчы, каб зьнішчыць нямецкія ваенныя крэпасьці ўдоўж польскай граніцы. Гэткім чынам трэба прызнаць, што Немцы на гэты раз адтрымалі хаця і няпоўную, але ў кожным разе вялікую перамогу ў Лізе Народаў.

Адначасна і далей астаецца напружанная палітычная атмосфэра на Паўдні Эўропы. Адносіны паміж Францыяй і Італіяй ў выніку раскрыцьця фашыстаўскай правакацыі на францускай тэрыторыі вельмі завастрыліся. Дайшло нават да таго, што як тая, гэтак сама і другая старана пасьпешна сьцягва ваенныя сухапутныя і марскія падмогі да прыгранічных пунктаў. Атмосфэра гэтак напакована падрыўнымі матар'яламі што ў кожны мамэнт можна чакаць вайны, калі толькі ня будзе якіх-небудзь новых пераменаў. Зусім гэткае самае палажэньне і на італьянска-сэрбскай граніцы ў зьвязку з падпісаньнем ваенна палітычнага дагавору паміж Італіяй і Альбаніяй. Юга-Славія ўвесь час падазронна глядзіць на італьянскую экспансію на Балканах, дзе апрача таго йдзе барацьба паміж італьянскімі і французскімі ўплывамі. Італьянская экспансія на Балканы і Блізкі Усход ужо мела сваім пасьледзтвам тое, што Радавая Расея нядаўна падпісала з Турцыяй гарантыйны трактат, на аснове якога бальшавікі абязуюцца даваць ваенную дапамогу Турцыі ў выпадку нападу на яе Італіі ці Грэцыі. Наагул адносіны між бальшавікамі і італьянскімі фашыстымі, быўшыя вельмі добрымі яшчэ ня так даўно, зусім папсаваліся. Пры гэтым зусім не паддаецца ніякому тлумачэньню вось які факт. Нямеччына, хаўрусьніца Радавай Расеі і варожа настроеная да гэтай пары да Італіі, зусім неспадзявана ні для каго заключыла з апошняй пакт узаемнае прыязьні. Мусоліні запрапанаваў нават Штрэзэману прыехаць у Рым для падпісаньня гэтага пакту. Але Штрэзэман адмовіўся, каб не псаваць сваіх адносін з Чычэрыным і Брыянам. Нямецка-Італьянскае паразуменьне можа яшчэ больш завастрыць адносіны Італіі з яе заходнімі і ўсходнімі суседзямі.

У гэты-ж час закончылася зусім і забастоўка ангельскіх вуглякопаў, пачатая аж першага траўня. З агульнага ліку баставаўшых 1.150,000 вуглякопаў ужо прыступіла да працы больш як 800.000. А што датычыць рэшты работнікаў, дык шмат хто з іх можа зусім не знайдзе працы па прычыне папсаваньня вугальных шахтаў ад таго, што шахты гэтыя доўга не працавалі. Вуглякопы вышлі з забастоўкі зусім пераможанымі, бо мусілі прыступіць да працы на значна горшых варунках, як тыя, якія былі перад забастоўкай. Яны дамагаліся зьмяншэньня рабочага дня з 8 гадзін да 7, павялічэньня заработнай платы і агульнадзяржаўнай умовы з прамыслоўцамі. А ў выніку амаль ні 8-месячнай забастоўкі згадзіліся на асобныя умовы ў кожным басэйне з асобнымі прамыслоўцамі і на 7½—8 гадзінную працу пры гэтакай самай, ці нават меншай плаце, як была перад забастоўкай. Тлумачыцца гэта тым, што лідэры вуглякопаў, як дыктатар Кук і Сьміт, рабіўшыя ўсё па дырэктывах з Масквы, перацягнулі струну, дамагаючыся ад работнікаў, каб не адступалі ад сваіх жаданьняў да поўнай капітуляцыі капіталістых. А выйшла наадварот. Капітулявалі работнікі, змушаныя да гэтага голадам, бо апрача бальшавіцкай грашовай запамогі, дасягнуўшай агульнай сумы 11,5 мільёнаў руб., ні ад каго нічога не адтрымывалі. Другой прычынай, змусіўшай іх да поўнай капітуляцыі, было тое, што іх не падтрымаў эўрапэйскі пролетарыят, на якога яны мелі надзею. Гэткім чынам заявы соцыялістых аб міжнароднай пролетарскай солідарнасьці аказаліся міфам. У выніку гэтай бессэнсоўнай і нават праступнай забастоўкі, бо калі-б яна здарылася ў іншай дзяржаве, дык зусім зруйнавала-б яе, яны пагоршылі варункі ўласнага жыцьця і жыцьця іншых усіх ангельскіх работнікаў, абастрылі эканамічны крызыс у Англі і прычынілі дзяржаве матар'яльную шкоду, якая дасягае 15 мільярдаў польскіх злотых, што складае 8 гадавых польскіх дзяржаўных бюджэтаў. Да забастоўкі ў Англіі было 1.200.000 безработных, а цяпер гэты лік дасягае да 1.800.000. Усё гэта ў канцы-канцоў ляжа на карак працоўных масаў.

Канец ангельскай забастоўкі зробіць свой уплыў на агульнае эканамічнае палажэньне ўсяе Эўропы, і ў першай чарзе Польшчы, якая дзякуючы ангельскай забастоўцы павялічыла свой вываз зугля заграніцу ў некалькі разоў. Гэта пазволіла устабілізаваць польскую валюту і наагул значна палепшыць эканамічна-фінансавую сытуацыю. Але наш урад не здалеў скарыстаць гэтай надзвычайна карыснай сытуацыі. Немцы больш зарабляялі на перавозцы польскага вугля цераз свае зялезныя дарогі і порты, як Польшча. Апрача таго пэлы час расла ўнутры краю дарагоўля. І цяпер, калі якраз пачынаецца конкурэнцыя на вонкавых вугальных рынках з Англіяй і калі для больш памыснай бараць-бы патрэбна панізіць цану на польскі вугаль шляхам паменшаньня, коштаў яго дабываньня, нашыя вуглякопы і наагул гарнякі Дамброўскага, Кракаўскага і верхня-сілескага басэйнаў жадаюць павялічэньня зарабо‍тнай платы, пагражаючы ў працiўным выпадку забастоўкай. Прамысловцы згаджаюцца здаволіць іх жаданьні, але ня ў поўнай меры. Гэткі-ж самы конфлікт істнуе і ў нафтавой прамысловасьці, дзе ўжо больш тыдня цягнецца забастоўка. Усё гэта не палепшыць, а толькі пагоршыць агульную палітычна-эканамічную ўнутраную і вонкавую сытуацыю дзяржавы. *Я. Ш*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА

## У Польшчы.

### СОЙМ.

Сойм разглядае дзяржаўны бюджэт на 1927-8 г. і тымчасовы бюджэт на першы квартал 1927 г., які прадбачыць расходы ў суме 448, 821, 561 зл.

### ДОЛЯ ПРЭСАВАГА ДЭКРЭТУ.

Прэзыдэнт Рэспублікі на моцы новых упаважненьняў, прынятых Соймам, выдаў нядаўна дэкрэт аб прэсе, які ўсе праступкі проціў вольнасьці слова і прэсы перадаваў компэтэнцыі адміністрацыйных уладаў, што пярэчыць вольнасьці слова і прэсы, гарантаванай канстытуцыяй усім грамадзянам дэмакратычнай Рэспублікі. Журналісты і рэдактары газэт усіх бяз вынятку запратэставалі проці гэтага ўціску прэсы. А калі на моцы канстытуцыі гэты дэкрэт быў унесены да Сойму для зацьверджаньня, дык Сойм амаль аднагалосна яго адкланіў. Аднак ён будзе яшчэ істнаваць да 1 студня. Урад выпрацаваў новы дэкрэт, які мала чым розьніцца ад жывога нябошчыка.

### „ПАРТЫЯ ВЯЛІКАЙ ПОЛЬШЧЫ."

У Пазнані, гэтай цьвярдыні польскай эндэцыі, дзе мае сваю сталую рэзыдэнцыю лідэр Эндэцыі Раман Дмоўскі, нядаўна адбылося заснаваньне гэтак званай „Партыі вялікай Польшчы". Гэта нішто іншае, як перанясеньне італьянскага фашызму на польскі грунт. Арганізацыя гэтай партыі, аб'ядналай рэшткі разваліўшайся эндэцкай партыі, чыста фашыстаўская. На чале стаіць „вялікая рада", як у італьянскіх фашыстых. Далей партыя дзеліцца на акружныя, ваяводзкія, павятовыя і г.д. аддзелы. У партыі падтрымліваецца суровая дысцыпліна і падчыненьне Гэткім чынам Раман Дмоўскі прабуе ратаваць збанкрутаваўшую пасьля выбараў у Сойм „васьмёрку".

## Заграніцай.

### ПРЭМІІ НОБЭЛЯ.

Прэміі Нобэля за заслугі ў працы над мірам прысуджаны: за 1926 г. Брыяну і Штрэзэману, і за 1925 г. — Чэмбэрлену і в цэ-прэзыдэнту Злучаных Штатаў Даусу.

### СЬМЕРЦЬ ПАШЫЧА.

У Белградзе памёр на 81 г. жыцьця тварэц Юга-Славіі Мікалай Пашыч. У 1878 г. ён увайшоў у парлямэнт. У1903 г ён быў назначаны прэм'ерам Сэрбіі і з тэй пары ўвесь час займаў ці пост прэм'ера, ці міністра заграгічных справаў Вянцом яго дзеяльнасьці — было злучэньне Сэрбаў, Кроатаў і Славенцаў у адну дзяржаву Юга-Славію. Пашыч зьяўляецца жывой гісторыяй свайго народу, які так пагеройску бароўся за свабоду.

### СЬМЕРЦЬ КРАСІНА.

У Лёндане памёр радавы прадстаўнік Леанід Красін. Гэта адзін з радавых „саноўнікаў", які пасьля Леніна найбольшую заслугу палажыў у галіне эканамічнае адбудовы Радавай Расеі. Як інжынер па адукацыі, скончыўшы Тэхналёгічны Інстытут у Пэтэрбургу у 1870 г., ён увесь час стаяў на чале эканамічнага жыцьця Совдэпіі. Ен быў тварцом і выканаўцам новага эканамічнага курсу пад назвай „НЭП". У апошні час быў пaслом у Парыжы, а перад сьмерцю ў Лёндане. Пасьля сьмерці Л е н і н а і ката Дзержынскага сьмерць Красіна прадстаўляе незамянімую ўтрату. Пасьля сьмерці ён пакінуў насьледства ў заграгічных банках у суме 30 мільёнаў руб.

### СПАТКАНЬНЕ МУСОЛІНІ З ШТРЭЗЭМАНАМ.

У выніку падпісаньня нямецка-італьянскага пакту прыязьні чакаецца асабістае спатканьне італьянскага дыктатара Мусоліні з нямецкім міністрам заграгічных справаў Штрэзэманам. Месцам спатканьня вызначана мясцовасьць у паўночнай часьці Італіі. Гэта новае сяброўства паміж Нямеччынай і фашыстаўскай Італіяй вельмі не падабаецца Францыі, у якой з Італіяй у апошні час моцна напсаваліся адносіны.

### ПАЛІТЫЧЧНЫ КРЫЗЫС У НЯМЕЧЧЫНЕ.

Ужо доўгі час Нямеччына перажывае крызыс дзяржаўнай большасьці у парлямэнце. Да адкрытага крызысу не дайшло толькі з увагі на Жэнэўскую сэсію Рады Лігі. Хаця нямецкая прэса прызнае, што ён шмат зашкодзіў нямецкай справе ў Жэнэве. Канцлер Маркс вядзе гутаркі з лідэрамі ўсіх партыяў і жадае стварыць гэтак званую „ваймарскую коаліцыю" з удзелам сацыяль-дэмакратаў і без нацыяналістых. Калі толькі гэтая камбінацыя не дайдзе да ладу, дык цяперашні кабінэт выйдзе ў адстаўку.

### СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ КАБІНЭТ У ФІНЛЯНДЫІ.

Соцыялісты Таннэр стварыў па даручэньню прэзыдэнта рэспублікі чыста соцыялістычны кабінэт.

### МІНІСТЭРСКІ КРЫЗЫС У ЛАТВІІ.

Латвійскі кабінэт вышаў у адстаўку. Місія тварэньня новага кабінэту даручана соц-дэмакратам, якія вядуць гутарку з нацыянальнымі меншасьцямі аб уваходзе іх у ўрадовую коаліцыю.

### КАНГРЭС у С.Р.С.Р.

Амаль адначасна ў Маскве адбыліся два кангрэсы: Камінтэрну, на якім быў старшынёй Бухарын замест Зіноўевага і кангрэс Чырвоных прафэсіянальных саюзаў, на якім быў прысутным дыктатар ангельскіх вуглякопаў Кук, дзякаваўшы за падтрыманьне расейскімі работнікамі Ангельскіх забастоўшчыкаў.

### ПЕРАМІРЫЕ ў КІТАІ.

Паміж дыктатарамі паўночных правінцыяў і Чырвоным Кантонам заключана пераміры́е. Вайсковыя апэрацыі прыпынены і пачаліся мірныя перагаворы. Англія ўжо згаджаецца прызнаць незалежнасьць Кантону і гатова пачаць з ім перагаворы аб урэгуляваньні спрэчных справаў.

## Агляд прэсы.

Нядаўна ў Львове адбыўся кангрэс Украінскага Нацыянальна-Дэмакратычнага Аб'еднаньня (Ундо), ў склад якога ўходзяць тры най большыя палітычныя партыі Ухадняй Галіцыі. У зьвязку з гэтым супрацоўнік „Robotnika" зьвярнуўся да старшыні Ундо д-ра Дымітра Лявіцкага за інфармацыямі, якія і зьмясьціў у № 337 ад 8 гэт. м. А дзеля таго, што Ундо шукае кантакту з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі адпаведнага палітычнага кірунку, дык не пазбаўляе цікавасьці і нас праграма гэтай арганізацыі, накрэсьленая ў „Rob." карэспандэнтам Н. Камілевічам. Паводле яго справазданьня:

Ундо займае адносна Польшчы безварункова нэгатыўнае палажэньне, не прызнаючы нават тэрыторыяльнай аўтаноміі для ўсіх украінскіх зямель у Польшчы. Галоўным кірункам палітычнае праграмы Ундо зьяўляецца імкненьне да самастойнасьці і незалежнасьці Украіны, а таксама аб'яднаньня ўсіх украінскіх зямель, дзеля чаго Ундо не прызнае тых міжнародных трактатаў, якія паўсталі бяз волі украінскага народу, як пастанова Рады Паслоў ад 1923 г. па украінскаму пытаньню.

Адносна польскіх партыяў Ундо таксама займае нэгатыўную пазыцыю дзеля таго, што ўсе польскія партыі ад радыкальнай правіцы да радыкальнай лявіцы імкнуцца да палянізацыі Ўсходніх Крэсаў. Гэта датычыцца і жыдоў, якія заключылі з Станіславам Грабскім умову, падтрымліваючы гэтым самым палянізацыйны рух.

Ундо лічыць Польшчу за заборчую дзяржаву, якая бясправўна і гвалтам захапіла ўладу часьці польскай дзяржавы і адносіцца да яе, як да дзяржавы заборчай.

Гэтак адносяцца да польскай дзяржаўнасьці умеркаваныя украінскія партыі – Ундо. Падкрэсьліўшы такую непрымірымую пазыцыю украінцаў адносна Польшчы і польскіх партыяў, „Robotnik" зусім праўдзіва ад сябе заўважае:

Есьць фактам не запярэчаным, што да такога палажэньня Ундо давяла пасыўнасьць ураду адносна пытаньня аб украінскай меншасьці. Бо ня штука патрэбаваць ад украінцаў апрача матарьяльных абавязкаў яшчэ лёяльнасьці, пакорнасьці і пашаны для ўраду, калі той узамен не дае другой старане ніякіх рэкомпэнсацыяў. Калі браць, дык трэба і даваць. А польскія ўрады, можам гэта зусім сьмела сказаць, не далі Украінцам нічога пазытыўнага. Прыпомнім толькі справу аб унівэрсытэце і украінскіх школах.

Што-ж пасьля гэтага застаецца гаварыць аб беларусах. Украінцы ўсё ж такі і цяпер маюць каля 900 сваіх школ. А ў беларусаў нічога няма, апрача абяцанак.

* * *

„Kur. Wileński" (№ 286), палемізуючы з „Сял Нівай" адносна новага цыркуляру віцэ прэм'ера Бартля па міністэрству прасьветы, між іншым піша:

Да гэтай пары нашы адміністратары-асабліва школьныя Куратары лічыліся не прадстаўнікамі інтарэсаў Польскай дзяржавы і ўсіх яе грамадзян, але прадстаўнікамі толькі польскай нацыянальнасьці і яе інтарэсаў. Адсюль дзяржаўны інтэрас разумеўся ў падтрыманьні польскае мовы і польскай культуры з аднachасным уціскам усякай іншай культуры.

Аднака-ж прадстаўнік дзяржавы і польскай дзяржаўнасьці мусіць ад

## Татунькіна місія.

**(Нязвычайнае, але фактычнае здарэньне).**

### III.

**Неспадзяваныя няпрыемнасьці.**

Прайшло некалькі дзён, а можа на'т і некалькі тыдняў... Жыхары Вільні, спачатку надта зацікаўленыя асобай пана Татунькі, як насіцілем нейкай патаемнай місіі і амаль што самі ненаглядаючыя за кожным яго крокам, цяпер ужо прызвычаіліся зусім да гэнае, ў шэрай вопратцы і без капялюша, фігуры і больш не зварочвалі на яго ніякае ўвагі. Нат газэтныя хлапцы і тыя пасьля „sprostowania" ў газэтах паглядалі на яго, альбо з усьмехам, альбо зусім адварочваліся і толькі ўсьлед за ім паказвалі нейкую фігуру з пальцаў, быццам кажучы: „вось твая місія!.. На табе тваю місію"...

А спраставаньне і запраўды было надта няпрыемнае і прыкрае для пана Татунькі. Суседнія „państwa" тэлеграфавалі: „ніякага Татунькі мы знаць ня знаем і ведаць ня ведаем і ніякае місіі яму не надавалі"...

Адным словам стваралася паветра, хоць выносься, і толькі ўсім было дзіўна, што сам Татунька неяк лёгкаважна адносіўся да гэтага і быццам усё гэта яго ня тычылася... Праўда, казалі, што прайшоў час, калі газэтчыкі выкрыкалі: „знаць ня знаем, ведаць ня ведаем"... ён як раз сядзеў на „брахалаўцы", прыглядаючыся да „Закапянкі" і, ўчуўшы гэтыя выкрыкі, неяк хітра ўхмыльнуўся і зьвярнуўся да суседа: „дыплёматыя!.. а як-жа інакш і палітыку рабіць"... — і, схіліўшыся бліжэй да гэта-ж суседа, папрасіў па піросу і дадаў — „усё гэта ерунда... і мне толькі не падабаецца, што, найбольш кажучы, адклікнулася толькі Літва і Расея.. Вось пабачыце, што напэўна яны заключаць нейкі дагавор"...

Трэба аддаць справядлівасьць віленскім уладам, што яны — ці з „oszczędności", ці можа проста з лёгкаважаньня місіі пана Татунькі, — але не пайшлі па прыкладу маленкае Літвы і не запрапанавалі, пакуль што п Татуньцы дзяржаўнага утрыманьня, а, пакінуўшы яго быццам самому сабе, чакалі толькі рэзультатаў яго місіі... Тыя вынікі, што з дня прыезду п. Татунькі „Грамада" стварыла каля 700 гурткоў і павялічыла лік сваіх сяброў да 50 тысячаў, былі пэўне ж няпрыемны, але зараз неяк ураўнаважыліся тым,

нолькавай руплівасьцей акружыць патрэбы ўсіх яе грамадзян, каб там, дзе, як у нас на некаторых абшарах, гэтыя пакрыўджаныя грамадзяне, твораць большасьць, гэта большасьць, ня выступіла процiў дзяржавы.

Згаджаючыся зусім з слушнасьцю гэтых увагаў аўтора артыкулу, мусім нажаль прызнаць, што гэтыя простыя праўды ня крануты яшчэ нашай адміністрацыяй, на чым больш усяго траціць дзяржава, як цэлая.

* * *

У „Kur. Por.“ (№ 341) зьмешчана гутарка з былым міністрам і паслом да Сойму п. Тугутам, які акрэсьліў агульны балянс памаёвага поўгодзьдзя. Аб нацыянальных меншасьцях ён між іншым сказаў:

Будучы Сойм будзе страшэнна цяжкі. Скомплікуе яго ад першага дня справа нац меншасьцяў, аб каторай ніхто не клапоціцца, каторая „się paczy“, псуецца і мясцамі пераходзіць ў стан запальны. Замест спакойных і адносна лёяльных жыдоў прыйдуць львоўскія украінцы, а калі яны возьмуць кій у рукі, ігра пойдзе не аб пацерах. Пры існуючай ў польскіх галовах эндэцкай тэорыі недапушчэньня меншасьцяў да нашых дзяржаўных спраў, утварэньне большасьці можа апынуцца ізноў надта цяжкім, асабліва калі гэтыя меншасьці будуць справакованы да заняцьця яўна антыдзяржаўнае пазыцыі.

# Юбілей Якуба Коласа.

Нядаўна ўся Беларусь, як Заходняя, гэтак сама і Усходняя ўрачыста сьвяткавала 20-тыя ўгодкі поэтычнай працы свайго найвялікшага пасьля Янкі Купалы песьняра Якуба Коласа. Прайшло 20 г. з тэй пары, як зьявіўся ў друку першы верш Якуба Коласа „Беларусам“, разбудзіўшы ад вечнага сну беларускую вёску. Цэлы гэты час не заціхаў яго магутны покліч да працы для здабыцьця свабоды і лепшай будуччыны, у той час, калі сядзеў у турме.

Якуб Колас пачынае сабою плеяду песьняроў „Маладое Беларусі“, тае Беларусі, якая выступіла на ніву грамадзянскай працы ў часы вялікай завірухі 1905—6 г. і моцна зьвязала пытаньні нацыянальна-культурныя з інтарэсамі і жаданьнямі шчыра-працоўнага, праўдзіва дэмакратычнага народу. Праўдзівае імя Якуба Коласа — Костусь Міцкевіч. Сын селяніна з вёскі Мікалаеўшчыны Слуцкага павету, радзіўся 4 лістапада 1882 г. Адукацыю адтрымаў ў Нясьвіжскай вучыцельскай сэмінарыі і зрабіўся вясковым вучыцелем.

Вершы пачаў пісаць з маладых гадоў. Як толькі ў 1906 г. пачала выходзіць у Вільні першая беларуская часопісь „Наша Доля“ Колас зараз-жа завязаў зносіны з яе рэдакцыяй і ў N 3 гэтае часопісі ўжо быў надрукованы яго першы верш „Беларусам“.



Якуб Колас.

Захоплены рэвалюцыйным рухам 1905—6 г., Якуб Колас з цэлым маладым запалам аддаецца палітычнай працы і барацьбе за духовае вызваленьне беларуса. Ён прымае ўчасьце ў першым тайным зьездзе беларускіх настаўнікаў у 1906 г. у Вільні. Далей за арганізацыю тайнага хаўрусу беларускіх народных вучыцялёў арыштоўваецца разам з некалькімі

што павадыры „Грамады“ пералаяліся з „Сялянскім Саюзам“ і беларускімі хадэкамі, а праваслаўныя папы і палкоўнікі пачалі пераходзіць у уніяцтва... І ўсё гэта зрабіла пэўнае ўражаньне на польскія колы і ізноў павысіла папулярнасьць пана Татунькі... Нат „Dziennik Wileński“ і той зварочваў увагу грамадзянства, што з прыездам п. Татунькі „stronnictwa białorusk e zaczęli rosnąć jak grzyby“...

— „Ого! — ў душы падумаў п. Татунька — каб нарасло крыху больш Грыбоў, як наш Тамаш, дык ня толькі тутака, а ўва ўсёй Беларусі было-б інакш“...

Сьледам за польскай прэсай пачалі ўжо калі-ні калі даваць заметкі і беларускія газэты, але заметкі гэтыя ня надта падабаліся пану Татуньцы і выклікалі ў яго нейкае незадаваленьне...

— Далібог не разумею, казаў ён. — Чаму гэта так: тыя,—і ён выцягваў кіпу польскіх газэтаў,—і цікавяцца маей асобай, і нейкую надалі мне нібыго місію, і рэклямуюць мяне ў прэсе і наглядаюць ня толькі за кожным маім крокам, а нат і за прыватным жыцьцём, — а гэтыя беларусы, дык толькі лаюцца, высьмейваюць, дый фэльетоны пішуць... Што я ім „аранжырэц“, ці што?!... А да старога эс-эра беларускага, да палітычнага дзеяча, можна сказаць з пачатку адраджэньня Беларусі, да сябры першага ўсебеларускага парляманту, дык нямашака а ніякае пашаны, а ніякай павагі... Няма нат і даверра!... Аднае залатоўкі дый і то ніхто не паверыць. Эх вы?!.. І куды я папаў?! А тутака яшчэ і падкупіць хацелі, — ужо больш весела дадаваў ён, — дэлегацыю нейкую падсылалі... Запрасілі ў кнайпу... Напаілі і думалі, што Татунька прадасца...

Не!.. выбачайце — старыя беларускія эс-эры не прадаюцца, сваім суменьнем не гандлююць і „вех“ сваіх не мяняюць...

— Гы, гы, гы... зарагатаў Онвід, — Татунька!.. Ці-ж гэта ты ?!...

— Чаго іржэш, як жарабец?! — адгрызнуўся пакрыўджаны Татунька, — над чым сьмяешся „авансьнік“ прадажны... Эх, вы, пісакі...

І жывіцё вы, як кветкі —
Абы дзень, як-нібудзь...
Ну, як тыя „кабеткі“,
Што сябе прадаюць...

Прадэклямаваў ён, — але ўсе гэта ерунда— дадаў, — адное толькі бачу, што мне з вамі не па дарозе... Бывайце...

## Беларусам.

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна!
Ці-ж мы хлопцы, рук ня маем?
Ці нам сілы Бог ня даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды ня блішчаў?
І прачхнецца ад дрымоты
З намі наша старана!
Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцяна.

*Якуб Колас.*

іншымі сябрамі арганізацыі і засуджваецца менскім акружным судом на 3 гады вастрогу. Кару адбываў у менскім вастрозе.

Пасьля гэтага доўгі час туляўся з кутка ў куток без пасады, і толькі перад самаю вялікаю вайною зноў быў назначаны вучыцелем у Пінску. З пачаткам вайны яго мабілізуюць, як простага жаўнера. У час рэвалюцыі трапляе ў Курскую губ., адкуль ён вярнуўся ў Менск толькі ў 1921 г.

Беларускі радавы урад у дзень яго юбілею даў яму тытул „народнага поэта" і вызначыў аж да сьмерці пэнсію. Такую нагароду адтрымаў сярод беларусаў толькі Янка Купала. Гэта дае яму магчымасьць аддаць увесь свой час спакойнай творчай працы на карысьць свае бацькаўшчыны.

З-пад пяра Якуба Коласа выйшлі ў сьвет гэткія зборнікі вершаў і апавяданьняў (апошнія пад псэўдонімам Тараса Гушчы): „Песьні Жальбы", „Батрак", „Як Юрка збагацеў", „Прапаў чалавек", „Родныя зьявы", „Апавяданьні", „Нёмнаў дар", „Тоўстае палена", „Сымон музыка", „Новая Зямля". У 1924 г. вышла ў сьвет повесьць Коласа, „У Палескай глушы", пісаная ня вершам, а прозай. І ў самы апошні час ён напісаў драму „забастоўшчыкі", дзе малюецца нелегальны зьезд беларускіх настаўнікаў пры царскім рэжыме.

## Поэтыцкая творчасьць Натальлі Арсеньневай.

*(Крытычны нарыс).*

Раней чымся перайсьці да творчасьці Натальлі Арсеньневай, дазволім сабе спыніцца праз момант над адносінамі, пануючымі ў сфэры беларускае выдавецкае працы і навучных досьледаў над гісторыяй беларускае літэратуры.

Адносна працы выдавецкае скажам тут толькі адное, што яна (за выняткам Радавай Беларусі) ёсьць мінімальнай, а пры тым яшчэ хаотычнай, абапёртай пераважна на пратэкцыі паноў „прэзэсаў" розных выдавецкіх таварыстваў.

Рэзультат — якнайгоршы! — друкуецца розная ерунда або пераклады, а добрыя, арыгінальныя творы марнеюць у рукапісах і ня раз зусім прападаюць.

Ня лепш стаяць справы і з досьледамі ў краіне беларускае літэратуры, з працай па яе ўпарадкаваньню.

Да нядаўнага яшчэ часу ў беларускай літэратуры панаваў поўны хаос.

Ніякія сыстэматычныя досьледы над ёй ня былі магчымымі, дзеля таго хоць-бы, што ня было а ніводнае гісторыі літэратуры якой-бы ў гэтых досьледах можна было-б кіравацца... Істнавалі толькі пасобныя невялічкія монографіі або конспэктыўныя нарысы беларускае літэратуры апошніх гадоў, пераважна ў форме газэтных артыкулаў і гэта было амаль усё.

І толькі пару год таму назад зьявілася першая ілюстраваная гісторыя беларускай літэратуры, а пасьля гэткая-ж, ў хронолёгічным парадку ўтрыманая, хрэстаматыя, што ёсьць проста нязьмернаю заслугаю п. Максіма Гарэцкага, здольнага беларускага пісьменьніка, які заслужыўся прад сваей бацькаўшчынай і тым яшчэ, што напісаў першую беларускую повесьць п. н. „*Дзьве душы*" і гэтым скрануў з мёртвага пункту справу творчасьці ў гэнай, гэтак важнай, галіне беларускай літэратуры.

Як неабходнай была грамадзянству гісторыя беларусскай літэра-

І зьнік п. Татунька, як ня было зусім—прапаў, як у вадзе затануў. Казалі быццам выехаў заграніцу, быццам ні то ў „Македоніі" вядзе нейкія перагаворы з румынамі, ні то ў „Luvr'у" разглядае старажытныя абразы... але знайшліся скэптыкі, што зусім ня верылі гэткім чуткам, а цьвярдзілі, што нікуды ён і не выяжджаў, а сядзіць бяз „фэнінга" ў кішані — увесь аплутаны ў даўгох, як некалі ў калючым дроце...

Ворагі злосна цешыліся, а прыяцеліківалі галавой, дый разводзілі рукамі, але як тыя, дык і іншыя скарысталіся з гэтае мімавольнае адсутнасьці пана Татунькі і зараз-жа пачалі прыймаць належныя меры, каб ахаваць сябе ад яго ўплываў. Гэтак „Грамада" і Школьная Рада не пашкадавала на'т сваіх адвеку наседжаных гнёздаў на Віленскай 12 і якнайхутчэй перанясласся на іншыя вуліцы, а Тымчасовая Рада, страціўшы з свайго складу і супрацоўніцтва апошніх беларусаў, разам з „Беларускім Словам" пакінула Готэль Сакалоўскага і, каб аканчальна замясьці свае сьляды перад крэдыторамі, выехала ў нявядамым кірунку... На'т „Хатка Беларуская" і тая адмовілася ад ўгаворанага ўжо памешканьня „Апольлё" і доўгі час на'т і да гэтае пары ня хоча выявіць свае сталае кватэры, і толькі „Хадэкі" дый „Сялянскі Саюз" засталіся нібыто бязучасныя, але гэтае „бязучасьцьце" было, як здаецца, толькі вонкавае, бо „хадэкі", як кажа „Народная Справа", штось пасьпяшаліся адсьвяткаваць свае XX ўгодкі газэты „Krynica", а „Сялянскі Саюз" пачаў выпушчаць „Сялянскую Ніву" 2 разы ў тыдзень дый раптам зьнізіў кошт газэты аж да 10 грошай за нумар.

А сам п. Татунька так-такі нікуды і не выяжджаў і запраўды аплутаўшыся ў даўгох, як у павучыньні, нідзе не паказваўся, а рашуча змагаўся з крэдыторамі, як калісь за Бацькаўшчыну, за яе волю, незалежнасьць і непадзельнасьць...

І чым больш было няўдачаў і розных няпрыемнасьцяў, тым больш мацнела яго рашучасьць і жаданьне дабіцца свае мэты і пабедна дайсьці да канца... І ён не здаваўся...

(*Канец будзе*)

Г-ка.

туры, найлепш паказвае тое, што ўжо ў Вільн яна дачакалася другога выданьня, а трэйцяе дапоўненае і пашыранае праз аўтора выйшла нядаўна ў Менску.

Калі і можна што закінуць гэтай кніжцы, дык гэта тое, што аўтор, ці мо' выдавец, лічачы — відаць на збыт яе на Усходзе, прытарноўваючыся да тамашніх бальшавіцкіх манер, выдрукаваў усюды слова „Бог" з малое літары, ня выключаючы на'т цытат розных пісьменьнікаў тамака зьмешчаных, пагвалчаючы гэтак рэлігійныя пракананьні памёршых аўтораў, а гэтак-жа атручваючы душы тутэйшае беларускае моладзі ядам няверы!

Дзіўна! што на гэную анормальную праяву не зьвярнулі ўвагі, а ні бацькі вучняў, ані нашы дзеячы з хрысьціянскага і нацыянальнага лагеру!...

Але вернемся да чароднае нашае тэмы.

Вось-жа „гісторыя беларускай літэратуры", аблягчаючы літэратурныя досьледы праз стварэньне для іх пэўнага фундаманту і пабуджаючы энэргію дасьледьыкаў у кірунку дапаўняньня яе новымі матар'ялам і папраўляньня əбмылак, якія былі ў ёй дапушчаны разьвязала аднак аканчальна задачы сыстэматызацыі беларускай літэратуры і дасюль на шляху да падрабязных досьледаў стаяць гэткія перашкоды, як тое, што творы аднаго аўтора ўжо вычарпаны і іх няма ў прадажы, творы другога нельга дастаць, бо яны выданы ў Радавай Беларусі, ізноў-ж та творы трэцяга па розных газэтах і журналах, а чацьвёртага наагул не друкаваліся і бадзяюцца ў рукапісах, лежачы ў якімсь архіве або ў століку якога дзеяча!

За тэе велькі цікавай зьяўляецца спроба насьлядаваньня старых былін, або народных казак, якую бачым ў поэзіі *„Лебядзінае возера"*, зьмешчанай у *„Студэнцкай Думцы"* (N 1 (7) Сакавік 1926 г); на жаль зьмешчана ў гэтым нумары толькі частка поэмы, а дзеля таго, што выходзіць гэная „Думка",—як той казаў — „раз у год каля Вялікадня", дык і дасюль яшчэ канца мы не дачакаліся! Вось для прыкладу пачатак гэтага сапраўды арыгінальнага і цэннага твору, утрыманага ў характары народнай песьні-гутаркі:

І гэтак сумна справы стаяць ня толькі з дробнымі творамі, не! вышэйказанае у поўнай меры адносіцца і да першарадных аўтораў, складаючых беларускі Парнас!



ЗАМКОВАЯ ГАРА У ВІЛЬНІ.

У рэзультаце маем тое, што ў той час, калі старадаўны пэрыяд беларускае літэратуры ёсьць ужо даволі добра апрацаваны (маем тут на думцы, акрамя кнігі М. Гарэцкага вялізарную працу В. Ластоўскага п. н. *„Гісторыя беларускай кнігі"*, якая нядаўна вышла ў Коўні і абымае ласьне гэны пэрыяд), новы яе пэрыяд — адраджэнскі, (ХІХ-ае стагодзьдзе), а асабліва навейшы (пачатак ХХ стаг.) — выяўляюць вялікія прабелы і бракі.

Напрыклад мы ня маем нат прыблізнага паняцьця аб колькасьці беларускіх пісьменьнікаў у Радавай Беларусі і іх якасьці, а ня маючы магчымасьці азнаёміцца з іхнімі творамі, ня можам адзначыць іхняга месца ў беларускай літэратуры, а яны тамака пэўне маюць гэтакае-ж імглістае паймо аб адносінах у нас ў гэтай краіне. Мы на'т ня ведаем хто там яшчэ жывы, а хто ўжо памёр?! (напрыклад што сталася з пясьняркай К. Буйла?).

Але і ў нас, у Заходняй Беларусі, калі мы і маем агульнае паняцьце аб колькасьці і якасьці, творачых тут, беларускіх аўтораў, дык ўсё-ж такі ня можам усебакова ацаніць іхняе працы, бо ня толькі жывыя, але і памёршыя, на'т найбольш выдатныя, пісьменьнікі дасюль яшчэ не дачакаліся выданьня поўнага збору іхніх твораў!

Магчыма, што некаторыя з нашых чытачоў зьдзіўлены крыху гэным станам, ня могучы сьцяміць зразу, які зьвязак маюць паруша-

ныя вышэй факты з творчасьцю Н. Арсеньневай, але справа ў тым, што нашая пясьнярка, якраз, зьяўляецца ахвярай гэнай беларускай літэратурна-выдавецкай неразьбярыхі, аб якой мы пісалі вышэй.

Дзякуючы ёй толькі творы гэнае талентнае пясьняркі, належачай да беларускага літэратурнага Олімпу, ня гледзячы на тое, што піша яна ўжо некалькі год' дасюль яшчэ не дачакаліся а ніводнага кніжнага выданьня і па сягоньняшні дзень бадзяюцца па розных газэтах, журналах і календарох, або ляжаць у рукапісах.

Ганьба невыдрукаваньня гэтых твораў кладзецца прад усім на вядомае *„Беларускае Выдавецкае Таварыства"* ў Вільні, адну з экспозытураў *„Грамады"*, да якога ня раз і ня два зьвярталася пясьнярка з прапазыцыяй выданьня ейных твораў, адтрымліваючы заўсёды ад прэзэса стэрэотыпны адказ: *„Ня маем грошы!"* аб чым мы чулі самі асабіста з ейных вуснаў!

Аднак-жа цяпер гэнае-ж Т-ства толькі што выпусьціла ў перакладзе зусім чужую беларускаму народу, пранікнутую бальшавіцкім духам і вульгарную поэму Блока *„Двенадцать"*, плод нэрвовага расстрою аўтора. войстра адмяжоўваючы ад усей папярэдняй творчасьці гэнага вялікага песьняра расейскіх вярхоў, тонкага мастака і глыбокага думаньніка імпрэсіяніста.

А цяперака пяройдзем да самае творчасьці пясьняркі.

Вось-жа Натальля Арсеньнева належыць да невялічкае групы беларускіх імпрэсыяністаў. Яна належыць бадай што да найбольш характарных прадстаўнікоў гэнага літэратурнага напрамку, бо тады, калі ў іншых беларускіх імпрэсыяністаў настрої займаюць толькі большасьць іхняй творчасьці, у Арсеньневай амаль што ўся яе творчасьць зложана з тонкіх, кружаўных поэзіяў.

„Тут былі калісьці лясы цёмныя,
„Цёмныя былі ямы, высокія,
„Возера ляжала лебядзінае.
„У возеры тым жыў сам лебядзіны
цар,
„Жыў ён, цар, з лябёдачкамі белымі,
„Жыў ён, цар, з малымі лебядзёнкамі"
і г. д.

А цяпер прыглядзімся крыху тым дробным імпрэсіям, якія складаюць львіную частку творчасьці Арсеньнев‹а›й і ў якіх яна асягнула гэткі выс‹ок›і, мастацкі ровень.

Вось напрыклад вышуканая, меставая імпрэсія без назову, зьмешчаная ў адным з беларускіх журналаў:

„Недаверчыва ноч надыходзіць,
„Штосьці слухае... дух пераводзіць
„Цішыня... ц‹і›шыня., цішыня.
„Мягкай ймглой абвязаліся вулкі,
„Гоман места вялікі і гулкі,—
„Зьнік з апошнімі косамі дн‹я›.
„У небе зоры сьмяюцца праз сьлёзы
„І хоць ліпы дрыжаць на марозы,
„А сьмяюцца чагось і яны..
„Дык няўжо ж нас жыцьцё так зламіла
„Што ня знойдзем хаценьня і сілы
„Усьмяхнуцца праз сьлёзы і мы?!

У творчасьці пясьняркі пераважае тон ціхае, васеньняе мэлянхоліі.

Кружаўны сум, як тая нітка баб'яга лета, аблутывае нязначна ўсе ейныя вершы, але ў гэтым — іх асаблівы чар, іх хапаючае за душу харastво...

Каго напрыклад не ўзваруша гэткі верш, як *„Увосень"*, дзе поэтэса з нямым адчаем спыняецца над нятрывалкасьцяй нашага жыцьця і ягоных уцех.

Тут, здаецца, кожны штроф шапоча табе жудасна-панурае: *„Pulvis es*, або *Vanitas vanitatis"*...

Бо толькі паслухайце:

„Толька ўчора, здаецца, плылі ручаі,
„І увесеньняе сонца зямлю цалавала,
„А сягоньня ўжо нудна, жаўцеюць лісты,
„А сягоньня—ўжо восень бяз мала.

---

„Толькі ўчора, здаецца, пралескі цьвілі
„І у шоўк прыбіраліся новы бярозы,
„А сягоньня ўжо яблыкі з дрэваў зьнялі,
„І па шкле плывуць восені сьлёзы.

---

„Толькі ўчора, здаецца, над сіняй ракой,
„Салавей заліваўся, а мы там сядзелі,
А сягоньня ўжо поўнае сэрца тугой,
„Выцдам шчасьця ў жыцьці мы ня мелі"...

Гэтай імпрэсіяй, дазволім сабе скончыць наш агляд, спадзяючыся ў хуткім часе пабачыць прыгожа выданы зборнік пясьняркі, а ёй самой жадаючы стойкасьці ў нягодах і раду новых поэтцыкіх пэрлін...

**Язэп Сьветазар.**

## З украінскага жыцьця.

Нядаўна у Львове адбыўся конгрэс „Украінскага Нацыянальна-Дэмакратычнага Аб'яднаньня" („Ундо"). Гэтае аб'яднаньне абнімане амаль ня ўсе украінскія нацыянальна-дэмакратычныя партыі і групы. Конгрэс прыняў рад рэзалюцыяў у справах палітычных, гаспадарчых і культурных. Конгрэс востра адмежаваўся ад крайняй лявіцы і правіцы. У адносінах да Радавай Украіны конгрэс заняў пазыцыю чакальня, рашуча асудзіўшы толькі камуністычны лад і перавага у расейскіх уплываў. У галіне ўнутра на палітычнай тактыкі конгрэс даручыў выбранаму цэнтральнаму органу цеснае супрацоўніцтва з іншымі аднолькавымі па ідэі групамі нацыянальных меншасьцяў Польшчы.

# Апошнія навіны.

## Перававарот у Коуні.

Паводле найнавейшых вестак, у Коўні дайшло да пагрому палякоў і жыдоў. Разьбіваліся жыдоўскія крамы. У працягу першага дня рэвалюцыі чуўся кліч: „Далоў Польшчу і бальшавікоў! Адабраць Вільню"! Па палудні зьявіліся ў горадзе адозвы, ў якіх гаворыцца аб тым, што скінены ўрад прадаў Літву Польшчы і бальшавіком, дзеля чаго літоўскія збройныя сілы пастанавілі ўзяць уладу ў свае рукі. Пад адозваю падпісаны камэндант места павадыр літоўскага фашызму палкоўнік Главацкі. Па ўсім месьце гутараць аб тым, што мае пачацца марш на Вільню.

## Раскол у літоускім войску.

Сярод літоўскага войска расьце неспакой. Шавельскі гарнізон выступіў на польскую граніцу. Па прычыне расколу сярод літоўскага войска Сьметона не згадзіўся аканчальна на кіраваньне новым урадам.

(*Працяг на 10-й стр.*)

## Рэвалюцыя у Літве.

У ночы з 16 на 17 гэт. мес. Ковенскі гарнізон на чале з Сьметонай ўзбунтаваўся і заняў усе дзяржаўныя інстытуцыі; прэзыдэнт рэспублікі Грыніус арыштованы. Сьметона зьяўляецца прыхільнікам Нямеччыны і Радавай Расеі, і страшэнным ворагам Польшчы. Яшчэ нядаўна выступаў у Ковенскім Сойме за прылучэньне Вільні да Літвы.

## Дзьве бочкі.

Хто аб сабе усьцяж крычыць,
Свае таленты суне ў вочы
І надта ўжо аб тым хлапоча,
Вядомым каб навокал быць —
Пусты ён, так і знай, браточкі!

—

Па вуліцы нек ехалі дзьве бочкі.
Адна была з віном.
Другая —
Пустая.
Крокам першая, цішком,
Ледзь-ледзь сабе пляцецца.
Другая ўскач па камням прэцца.
Грыміць — бы гром,
Уздымае пыл стаўпом.
Хто ёй насустрэч пападзецца
Хутчэй ў куточку недзе жмецца
Ля сьпенкі, бокам,
Каб не здавіла ненарокам.
І нат калі была далёка
Ў той бок прахожы кідаў вокам,
Пакуль пыл з вопраткі абтрос
Дый чыхаючы чысьціў нос.
Калі-ж шум ўзьняты ёю сьціх,
Аб ёй забыліся у міг.
На хвіліну далась ўсім ў знакі.
Аднак, як ня было карысьці ад яе ніякай—
Загінула аб ёй і памяць разам з рэхам
І калі ўспомніць хто, дык хіба толькі
сьмехам!

*Б. ДРУЦКІ.*



# Гутаркі аб гаспадарцы

### Тыпы гаспадарак.

Самы распаўсюджаны тып гаспадаркі, якая вядзецца на вёсках — гэта трохпольная гаспадарка, якая складаецца з: 1) угору, 2) азіміны, 3) ярыны.

Гэта яшчэ дзядоўскі спосаб управы ральлі, і мае шмат недастаткаў. Трохпалёўка патрабуе асобых пасьбішчаў, добрых сенажацяў, як для прадукцыі аборніка (гною) так і быдла, бо гаспадарка такая дае для корму скаціне толькі салому.

Трохпалёўка і вёска цесна зьвязаны адно з другім. Нашаму селяніну трудна перайсьці на больш культурны спосаб гаспадаркі, бо вёска ўжывае трохпалёўку, вёсцы патрэбна пасьбішча, і вось ствараецца зачараванае кола, з каторага наш селянін выйсьці ня мож. А між іншым гаспадарчае жыцьцё трэбуе пераходу на больш культурны шлях.

Вышэйшы тып гаспадаркі, да якой ужо перайшлі сяляне Заходняй Эўропы гэта гаспадарка пераменна-пладавая. Гэгая гаспадарка характарызуецца прадукцыяй канюшыны і пастаўных расьлін.

Такі тып гаспадаркі не патрабуе ўжо вялікіх пасьбішчаў, а наадварот добра, калі скаціна ў працягу цэлага году корміцца ў хляве, бо гэта дае магчымасьць мець як найбольш аборніку (гною) без якога трудна перайсьці да інтэнсыўнай гаспадаркі.

Першае, чаго патрабуе культурная гаспадарка—гэта добрая управа ральлі.

У управе ўгору найбольшую вагу мае выдабыцьце наверх ніжэйшых слаёў зямлі, з нявычарпаным ящэ фосфарам, а найгалаўней паташом, які аднак знаходзіцца ў формах, для расьлін не карысных.

Вось для чаго ў управе ўгору асеньняе гараньне як найхутчэй, дабывае наверх ніжэйшыя слаі зямлі, пакідае на зіму зямлю ў вострых скібах, якія праз зіму пад уплывам маразоў і атмасфэрычных ападаў вымярзаюць і выветраваюцца, праз што паташ і фосфар зьмяняюцца ў формы карысныя для расьлін. Так што баяцца глыбокага гараньня ня трэба, як звычайна яго ў нас баяцца.

Гэтая „дзікая зямля“, як у нас думаюць, сама сабою перарабляецца на добрую і меней прыймае ў сябе, як гной, так і штучныя навозы.

Добрая управа ральлі адыгрывае паважную ролю ў гаспадарцы. Пераход да больш культурнай інтэнсыўнай гаспадаркі патрабуе больш<br>шага жывога інвэнтару. А наш гаспадар мае адну-дзьве каровы, ды аднаго каня. І часта не таму, што ён ня можа іх мець, а проста баіцца, што больш ён ня выкарміць.

Так вось трэба спачатку перайсьці на угнаеньне поля зялёнымі навозамі. Поле, якое вызначаецца пад пасеў жыта, трэба засеяць лубінам. Лубін кожнаму лёгка завясьці ў сябе. Досыць пасеяць не калькі пудоў на насеньне, і вось ужо маеш чым абсеяць угор пад жыта. Зараз жа па адцвіценьні лубіну трэба яго загараць, каб да пасеву жыта ён вылежаўся і перагніў.

Па лубіне жыта ў нас бывае добрае.

Гэтым самым зьберагаем гной, які заўсёды ў нас кладзецца пад жыта.

Вясной гэты гной можна скарыстаць пад большы ўжо пасеў акопных (бульба, буракі). Па жыце трэба на в я с н у пасеяць сарадэлі. Вось ужо ёсьць больш корму, можна трымаць больш скаціны.

Пасьля акопных (буракоў ці бульбы) якія садзяцца на гнаі, лепш за ўсё сеяць ячмень з падсевам канюшыны.

Гэтак пакрысе будзе ўсё павялічвацца лік корму, а з гэтым самым можна больш трымаць скаціны.

Глядзіш — праз некалькі гадоў ужо можна перайсьці на пра-



РУІНЫ ЗАМКУ НАВАГРАДЗКАГА.

вільную плалазьменную сыстэму гаспадаркі, якая павінна складацца так:

1. Акопныя (бульба ці буракі).
2. Ярына з падсевам канюшыны.
3. Канюшына
4. Азіміна з падсевам на вясну сарадэлі.
5. Ярына (альбо мяшанка).

Пры гэтай сыстэме ўжо можна больш трымаць быдла, хаця і ня мець вялікіх пасьбішчаў.

Праўда, што на вёсцы гэта трудна, бо трэба згоды ўсіх суседзяў.

Такая гаспадарка больш пасьпеху можа мець на хутарох, на якія нашай вёсцы ўжо пара перайсьці.

„Berl. Tagbl." паведамляе з Кэнігзбэргу, што граніца ў Эйдкунах закрыта. У той час, як Коўна знаходзіцца ў руках паўстанцаў, прадмесьце Зялёная Гара занята яшчэ войскам верным скінутаму ўраду. Магчыма крывавая бітва.

## Адстаука нямецкага ураду.

17-га сьнежня рэйхстаг 249 галасамі проці 171 выказаў ураду Маркса-Штрэзэмана вотум недаверыя. Камуністыя галасавалі разам з крайнімі нацыяналістымі. Зараз-жа пасьля паседжаньня рэйхстагу сабралася рада міністраў і пастанавіла падацца ў адстаўку, якая і была прынята прэзыдэнтам Гіндэнбургам.

Сэсія рэйхстагу адложана да 19 студня. У парлямэнтарных колах ня маюць надзеі, каб кабінэт удадося стварыць да Каляд. Магчыма, што прэзыдэнт рэспублікі паверыць місію стварэньня новага ураду соцыялістаму Мюлеру ці графу Вэстарпу, як прадстаўнікам тых фракцыяй, якія галоўным чынам прычыніліся да зваленьня ўраду Маркса.

## Праграма новага ураду.

Аг. ПАТ. паведамляе з Коўны, што там чакаюць апублікаваньня новым урадам праграмнага маніфэсту, ў якім на першае месца мае быць высунута жаданьне Літвы аб звароце ёй Вільны

## Рэвалюцыя у Коуні і Масква.

„Telegraphen Union" паведамляе Масквы, што Ковенскія выпадкі разглядаюцца ў Маскве, як некарысныя для бальшавікоў. Перагаворы паміж літоўцамі і бальшавікамі перарваліся. Старшыня літоўскае дэлегацыі вяртаецца ў Коўна.

БЕЛАРУСЫ! Пішэце нам аб жыцьці сваіх вёсак, хто як умее, падаючы толькі праўдзівыя факты. Карэспандэнцыі павінны быць з праўдзівымі імем, прозьвішчам і адрасам аўтара, але гэта толькі для ведама рэдакцыі. Падпісаны-ж яны могуць быць псэўдонімам.

# Тутэйшая хроніка.

### Б'ЮЦЬ ПАСЛОЎ.

Пры невыясьненых дасюль абставінах былі пабіты ў Белавежы беларускія паслы Валошын і Мятла.

### ЗЬЕЗД СТАРАСТАЎ.

14 гэтага мес. адкрыўся ў ваяводзтве пад кіраўніцтвам Ваяводы п. Рачкевіча зьезд павятовых старостаў Віленшчыны. Першы дзень разглядаліся пытаньні: публічная бясьпека і ахова граніц, тэлефонная злучэньне і рэлігійныя справы. Другі дзень: пытаньні самаўрадаў—фінансавыя, школы, здароўя вэтэрынарыі, дарогі, зямельная гаспадарка, пажарная запамога і арганізацыйныя справы. Трэці дзень. бягучыя справы, арганізацыйныя, адміністрацыйныя і агульныя.

### ГАЛАДОЎКА ПАЛІТЫЧНЫХ АРЫШТАНТАЎ НА ЛУКІШКАХ.

Палітычныя арыштанты ў Лукіскай турме ў ліку каля 147 асоб абвясьцілі галадоўку, выставіўшы цэлы рад жаданьняў да адміністрацыі вастрогу. Вастрог адведаў п. пракурор Штайнман, адбыў канфэрэнцыю з спэцыяльна выбранай дэлегацыяй у складзе 5 асоб. Пасьля адведаньня пракурора галадоўка была закончана. Калі б не перасталі галадаць, дык было-б роблена штучнае кармленьне.

Як пагедамляюць, найлепшыя рэзультаты дала пагроза, што арыштанты будуць пераведзены ў Пазнань, калі не перастануць галадаць. Паводле некаторых вэрсіяў галоўнай прычынай галадоўкі было жаданьне арыштантаў прадэманстраваць галадоўку перад ангельскімі гасьцямі з левага крыла ангельскай работніцкай партыі, прыбыўшымі ў суботу 11 г. мес. ў Вільню. Гэта ангельская дэлегацыя прыбыла ў Польшчу з спэцыяльнай місіяй пазнаёміцца з варункамі жыцьця ў польскіх турмах. Гэткім чынам яна адведала турмы ў Варшаве, Львове, Луцку і Вільні на Лукішках. Ангельская дэлегація вядзе канфэрэнцыі толькі з камуністымі, N. P. Ch., Грамадой і часткова з P. P. S.

### ДОБРЫ ПАЧЫН.

Віленскі саюз коопэратываў (М. Пагулянка 12) заняўся дастаўкай жыта ў мясцовасьці, пацярпеўшыя ад неўраджаю. Жыта будзе дастаўляцца з Румыніі і Вэнгрыі У Львове румынскае жыта прадаецца па 32—33 зл. за 100 кілёграмаў, у той час, як у нас у Вільні па 43 зл.

### ВУЛІЧНАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПЕРАД ВАСТРОГАМ НА ЛУКІШКАХ.

У зьвязку з прыездам ангельскага дэпутата і адведаньня ім вастрогу на Лукішках у суботу сабралася некалькі сот асоб на Вял. Пагулянцы і пад кіраўніцтвам пасла Галавача яны скіраваліся да турмы з крыкамі: „Патрабуем зямлі для мужыкоў бяз выкупу! Патрабуем звальненьня палітычных! Дало ў царскае угалоўнае права! Далой кару сьмерці і даразныя суды! Няхай жыве Сялянска-Работніцкі Ўрад"! На Лукіскім пляцы дэманстрантаў спаткалі некалькі паліцыянтаў і расьсеялі іх Аднакжа дэманстранты сабраліся зноў перад турмою. На гэты раз некалькі паліцыянтаў не маглі даць рады дэманстрантам і было затэлефанована да камісарыяту і паліцэйскай школы. Праз поўгадзіны прыбыло 15 конных паліцыянтаў. Пабачыўшы іх, часьць дэманстрантаў разьбеглася, а рэшта пачала бойку. Некалькі паліцыянтаў былі лёгка ранены. У выніку гэтай схваткі было 18 дэманстрантаў арыштована. Калі была зьліквідована дэманстрацыя, дык на Лукіскі пляц прыбыла рота паліцэйскай школы.

### ВОДГУКІ ДЭМАНСТРАЦЫІ І ГАЛАДОЎКІ.

13 гэт. мес. у ваяводзтве адбылася канфэрэнцыя паміж пракурорам акружнога суда п. Штэйманам і ваяводай п. Рачкевічам на тэму аб падзеях у турме і вулічных дэманстрацыях. Паліцэйскія, трымаўшыя сябе пасыўна, будуць пакараны, а болей энэргічныя — ўзнагароджаны.

**— Пасол С. Баран на волі.** Паводле атрыманых вестак, пасол С. Баран з Беларускага Пасольскага Клюбу, які быў засуджаны ў 1923 годзе ў маі месяцы на Беластоцкім працэсе на 4 гады катаргі, ужо выпушчаны з вастрогу.

**— Новая дэманстрацыя.** У Вільні на Лукіскім рынку 14-га сьнежня с. г. адбылася новая дэманстрацыя. Дэманстранты крычэлі процiў ураду Пілсудскага і дамагаліся звальненьня палітычных вязьняў. Уваружаная конная і пешая паліцыя ледзь справілася з дэманстрантамі.

## БІБЛІЯГРАФІЯ.

Выйшаў з друку і прадаецца "Беларускі Народны Календар на 1927 год".

Рэдагаваны і выданы пры галоўнам вучасьці доктара філёлёгіі п. Янкі Станкевіча — календар выглядае паважна і па зьместу свайму, цікавасьці і абшырнасьці матар'ялу — робіць ураканьне добрае..

Апрача самых календароў — праваслаўнага і каталіцкага — ён у сваіх дадатковых 102 страніцах мае яшчэ 5 аддзелаў: 1-шы нашая бацькаўшчына, 2 — чаго нам трэба, 3 — поэзія, 4 — аб гаспадарцы і 5 — практычныя парады з гігіены.

Найлепш апрацаваны і найцікаўшы — гэта 1 аддзел, г. е. аддзел гістарычны, дзе разглядаецца гісторыя Беларусі ад VI стагодзьдзя аж да нашых дзён і ўсё ўматывована пэўнымі данымі і ссылкамі на аўтарытэты. Відаць тутака любоўная праца філёлёга і трэба адзначыць, што да гэтага часу ў календарох не спатыкалася гэтакага нагляднага, драбязговага і цікавага абгляду нашае бацькаўшчыны.

Добра абстаўлены і 3-ці аддзел—поэзія, гдзе побач з гэтакімі сучаснымі карыфэямі нашае поэзіі, як Янка Купала, Якуб Колас і іншыя, дадзена шмат месца і новым маладым увасходзячым зьвёздам, як Натальля Арсеньнева, Ўладзімір Жылка і іншыя...

Гэтак сама цікавы і карысны 4-ты аддзел аб гаспадарцы... Аддзел 2 і 5 слабейшы, але наогул увесь календар, як з боку ўнутранага і вонкавага выглядае солідна і ёсьць пажаданай кніжкай для кожнага грамадзяніна...

**Г. К-кі.**

06724



## АБВЕСТКА

Бібліятэчка танных і цікавых кніжак, якія павінен мець кожны беларус:

| | | |
|---|---|---|
| Ядвігін Ш. Бярозка . . . | 90 | гр. |
| " " Васількі . . | 1 50 | " |
| " " Uspaminy . | 60 | " |
| Ziaziula A. Z rodnaha zahonu | 40 | " |
| " " Alenčyna wiasielle | 30 | " |
| Marcinkiewič W. Hapon . | 75 | " |
| B lina I. Na pryźbie . . . | 60 | " |
| Ciot a. Skr pka biełaruskaja | 30 | " |
| Багушэвіч Ф. Дудка Беларуская . . . . . . . . | 60 | " |
| Багушэвіч Ф. Смык беларускі | 40 | " |
| Дзяргач Тыпы Палесься. | 1.00 | " |
| Дубоўка У. Строма . . | 80 | " |
| Андэрсэн. Казкі . . . | 1.45 | " |
| Друцкі-Падбярэскі. Байкі | 40 | " |
| Лункевіч В. Закон жыцьця сярод жывёлаў і расьлін | 85 | " |
| Kraskoŭski A. Dr. Biełaruskija łakarskija ziołki . | 30 | " |
| Казячы. Неба і зоры . . | 40 | " |
| Apa iadańni i lehendy wieršam . . . . . . . . | 1.20 | " |
| Сьпевак Блёндэль. Англійская легэнда . . . . | 30 | " |
| Тарас на Парнасе . . . | 20 | " |
| Беларускі сьпеўнік . . | 50 | " |
| Stankiewič A. Doktar Fr. Skaryna . . . . . . . . | 1.00 | " |

Усе гэтыя кніжкі каштуюць перасылкай 16 зл. Выпісваючы або 2 экз. можа прысылаць паштовымі маркамі, дабавіўшы на перасылку 5 гр., а на заказную 35 грошы.

Апрача гэтага ў кнігарві ёсьць розныя падручнікі: беларускія і польскія і шмат іншых кніжак да чытаньня.

Кніжкі высылаюцца па адтрыманьні грошаў, або марак паштовых, або „за пабраньнем"; малая пасылка абходзіцца шмат даражэй.

Вялікшыя заказы высылаюцца „за пабраньнем" па адтрыманьні задатку ня менш трэцяй часьці.

БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ

**Ст. СТАНКЕВІЧА.**

ВІЛЬНЯ, ВОСТРАБРАМСКАЯ № 2

## Біржа.

Вільня 18. XII 26.

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . | 900 — 8,96 |
| Лёндан . . . . . | 43 87—43,65 |
| Парыж . . . . . | 36,27—36,09 |
| Швэйцарыя . . . | 174,88—174,02 |
| Рублі залатыя . . | 4,75½ |

ЗБОЖЖА.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 п.) | 42—43 | зл. |
| Авес " 100 " (6 п.) | 35 - 37 | " |
| Ячмень брав. . . . | 41—42 | " |
| " на кашу . . | 37 39 | " |
| Бульба . . . . . | 7.30—8 00 | " |
| Яйкі за 1 дзес. . . | 2 50—2 60 | " |
| Масла нясол. за 1 кг. | 7.00 —7 80 | " |
| " солен. . . | 6.50 - 7 00 | " |



## АБВЕСТКА.

Група сяброў б. Беларускага Грамадзянскага Сабраньня склікае агульны сход сяброў гэтага Сабраньня на дзень 23 сьнежня г. г., а 12 гадз. дня, у памешканi Т ва „Беларуская Хатка ў Вільні" — Вільня, Вялікая вул. № 56. Парадак дзённы: ліквідацыя маемасьці б. Грамадзянскага Сабраньня.

УВАГА: Калі-б на вызначаную гадзіну не сабралася вымаганая для правамоцнасьці сходу лічба сяброў, дык а 1 гадз., гэтага ж дня, там-жа адбудзецца другі сход, які будзе лічыцца правамоцным пры кожнай лічбе сабраўшыхся. Асобных запрашэньняў рассылана ня будзе.

## ЮРЫДЫЧНЫ АДДЗЕЛ

### Т-ва „Беларуская Хатка у Вільні"

дае парады, піша прашэньні і скаргі да ўсіх судовых і адміністрацыйных установаў.

ПРЫ АДДЗЕЛЕ АДЧЫНЕНЫ

### Інфармацыйна-Эміграцыйны пад'аддзел,

які дае спраўкі па ўсім пытаньням эміграцыі — як і куды ехаць, якія трэба мець дакумэнты. Гатовыя блянкі прашэньняў, высылаюцца па атрыманьні 2 злотых на перасылку. Юрыдычны аддзел адчынены ад 11 да 1 гадз. штодня.

УВАГА: Юрыдычныя парады падпісчыкам „Беларускае Хаты" будуць давацца бясплатна.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вялікая вул. № 56. (Wilno, ul. Wielka № 56), Адміністрацыя адчынена ад 11 да 2 г. штодня. Рэдактар прымае ад 12 да 1 гадз.

Падпісная цана: на адзін месяц з перасылкай 1 зл. на тры месяцы — 2 „ 50 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК: перад тэкстам — — — 20 гр. сярод тэксту — — — — — — — — — 25 гр. на апошняй стар. — — — — — — — — — 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. Старонка мае 3 шпальты

Рэдактар М. Малейка.

Выдавец — „Т-ва Беларуская Хатка ў Вільні"